12+

*Просто хорошая газета*

# Отдушина

Основана 18 октября 2002 года

№14 (709) 4 апреля 2018 года

Издатель УП «Газета Слонимская» Выходит один раз в неделю ГАЗЕТА РЕКЛАМНАЯ ДЛЯ ДОСУГА

# «Моцны чалавек павінен заставацца дома і вырашаць свае праблемы»


Васіль Клімовіч

**Беларускамоўны прадпрымальнік з Мастоў Васіль Клімовіч расказаў, чаму ён вярнуўся ў родны горад, распавёў пра бабулек і фастфуд, акрэсліў сваю жыццёвую пазіцыю і адказаў на бліц-пытанні.**

**— Васіль, скуль у Вас гэткі энтузіязм? Усе з`язджаюць з Мастоў у Мінск ці, напрыклад, у Польшчу...**

— Я сам быў шмат дзе, і ў Заходняй Еўропе таксама, але вярнуўся ў Масты. У мяне такое стаўленне да Беларусі, да нашага горада, да нашай мовы, што калі з`язджаеш з горада, значыць, ты праявіў нейкую слабасць. Моцны чалавек павінен заставацца на месцы і вырашаць свае праблемы, а не паехаць і ўсё кінуць. Сам я нарадзіўся ў Шчучынскім раёне, але з чатырох гадоў жыву ў Мастах.

**— Вы беларускамоўны чалавек па жыцці?**

— Збольшага так. Але шмат хто не хоча размаўляць на мове, кажуць, што нічога не разумеюць па-беларуску, і я, канешне, пераходжу тады на рускую. Такія нашы сённяшнія рэаліі, такая адукацыйная палітыка дзяржавы ў бок рускай мовы.

**— Але цяпер у Мінску з`яўляецца шмат беларускамоўнай моладзі. Ці ёсць такія маладзёны ў Мастах?**

— Ёсць, але няшмат. Большасць таленавітых і разумных людзей з Мастоў з`язджае. Не бачаць магчымасцяў для самарэалізацыі. У Мінску я сустракаў шмат беларускамоўных, але ў нас іх усё менш і менш.

**— Наколькі я ведаю, Вы плануеце рабіць тут культурніцкія імпрэзы. Але калі крэатыўная і разумная моладзь пакідае Масты, ці будуць папулярныя такія імпрэзы?**

— Нібыта ў Мастах і цяпер праводзяцца мерапрыемствы, але робяцца яны на нізкім якасным узроўні. Калі рабіць добрыя культурныя мерапрыемствы, то, думаю, гэта будзе карыстацца попытам, бо канкурэнцыі тут, можна сказаць, няма.

**— Васіль, Вы таксама адкрылі рэстарацыю, можна так сказаць, з фастфудам. Для правінцыйных людзей у Мастах разнастайныя бургеры і ролы — гэта нязвыкла. Як людзі гэта ацэньваюць?**

— Людзі кажуць, што гэта міні-Макдональдс. Шмат у каго з мастаўлян няма магчымасці паехаць кудысьці паесці гэткай ежы, а тут на месцы пайшоў і з`еў. У нас меню сучаснае, як у вялікіх гарадах, робім усё з якасных прадуктаў.

**— А як мясцовыя бабулькі рэагуюць на стравы ў Вашай кавярні?**

— Мясцовыя бабулькі прыходзяць, глядзяць, цікавяцца. Большасць з іх пытаюць, ці ёсць у нас чабурэкі, альбо цікавяцца, што такое піца. Многія прыходзяць з унукамі. І ніякага негатыву ад бабулек не чуў, акрамя, мабыць, таго, што, кажуць, у нас задорага.

**— Невялічкае бліц-апытанне. Прага ці Амстэрдам?**

— Прага.

**— Гародня ці Берасце?**

— Гародня.

**— Міхалок ці Вольскі?**

— Вольскі.

**— Быкаў ці Караткевіч?**

— Караткевіч.

**— Фільм «Назад у будучыню» ці фільм «Уладар Пярсцёнкаў»?**

— «Уладар Пярсцёнкаў».

**Мікіта ПАСТУХОЎ**
N.PASTYHOW@GMAIL.COM
ФОТА АЎТАРА


Васіль прымае замовы ў сваёй рэстарацыі

> — Я сам быў шмат дзе, і ў Заходняй Еўропе таксама, але вярнуўся ў Масты. У мяне такое стаўленне да Беларусі, да нашага горада, да нашай мовы, што калі з`язджаеш з горада, значыць, ты праявіў нейкую слабасць.

Больше материалов и фото смотрите на нашем сайте WWW.GS.BY





## ГЭТЫ ТЫДЗЕНЬ У ГІСТОРЫІ СЛОНІМШЧЫНЫ:
## 4 — 8 красавіка

**2 КРАСАВІКА 1944 ГОДА** ў Слоніме была адкрыта выстава народнага мастацтва з прадстаўленымі на ёй ткацкімі вырабамі са Слонімскай акругі. Берлінская газета «Раніца» пісала: «З выстаўленых экспанатаў можна бачыць, што найбольш па-мастацку ткуць свае радзюжкі сялянкі з-пад Казлоўшчыны і з-пад Азярніцы... Між іншым вельмі цікавыя экспанаты выстаўлены Лізай Малышчык з вёскі Пляшкі, Аленай Талерчык з Парэчча, Марыяй Сяргей з Нараставічаў і Аленай Шундрык з Хадзявічаў».

**5 КРАСАВІКА 1923 ГОДА** ў вёсцы Старыя Дзявяткавічы нарадзіўся Барыс Данілюк, беларускі грамадскі дзеяч у ЗША. Памёр 28 студзеня 2011 года.

**4 КРАСАВІКА 1557 ГОДА** нарадзіўся Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, слонімскі староста (з 1586 г.), пры якім Слонім перажыў свой першы «залаты век», зрабіўшыся важным эканамічным і палітычным цэнтрам дзяржавы. Памёр у 1633 годзе і пахаваны ў Вільні.

**5 КРАСАВІКА 1918 ГОДА** ў вёсцы Хмяльніца нарадзілася Марыя Фёдараўна Несцер, свінарка саўгаса «Слонімскі», Герой Сацыялістычнай Працы. У час вайны была поварам у партызанскім атрадзе імя Ракасоўскага. Пасля вайны, працуючы ў саўгасе, дасягала выдатных вынікаў. Так, у 1965 годзе ад кожнай з замацаваных за ёю 34 свінаматак атрымала па 27,5 парасят. 22 сакавіка 1966 года за дасягнутыя поспехі ў развіцці жывёлагадоўлі, павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак мяса, малака, яек і іншай прадукцыі ёй было прысвоена званне Герой Сацыялістычнай Працы.

**6 КРАСАВІКА 1845 ГОДА** Слонім, які на той час уваходзіў у склад Расійскай імперыі, атрымаў замест гістарычнага новы герб: шчыт, падзелены на дзве часткі, у верхняй з якіх меўся зубр (эмблема Гродзенскай губерні), а ў ніжняй на блакітным полі два скрыжаваныя мячы, паміж якімі стаяла дата «1275» як год, калі Галіцка-Валынскае княства на кароткі перыяд захапіла Слонім.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**

Подать частное объявление на сайт стало проще

133

Ремонт и реставрация мягкой мебели
Пенсионерам и инвалидам – скидка 5%
Изготовление мягкой мебели под заказ
Диван – в угловой выдвижной диван
Кресло – в кресло-кровать
Кровать – в подъёмную и выдвижную тахту, еврокнигу
Изменение дизайна
Замена пружинных блоков
Большой выбор тканей
Vel. 8 (029) 114-5-114
МТС 8 (029) 706-55-00
ИП Дятчик М.Н. УНП 590076856

**Ремонт стиральных машин-автоматов**

любых производителей, на дому у заказчика.
ВОСКРЕСЕНЬЕ ВЫХОДНОЙ
Тел. 8-029-783-10-50 (МТС)
8-029-389-11-19
ИП Грипич С.П УНП 590089390

ПРОДАМ ПИЛОМАТЕРИАЛ ОБРЕЗНОЙ, НЕОБРЕЗНОЙ:
- БАЛКИ, БРУС
- ДОСКА, ШТАКЕТНИК
ДОСТАВКА БЕСПЛАТНАЯ.
ЛЮБАЯ ПОРОДА ДРЕВЕСИНЫ.

8029 520-59-95
8029 785-43-24
ИП ЛОСЬ А.В., УНП 291306733

**РЕМОНТ ТЕЛЕВИЗОРОВ**
на дому у заказчика
Тел. 2-12-65,
VEL. 8-029-173-49-57
МТС 8-033-620-50-08
ИП Пархута Е.Н., УНП590084784

БЛОК-ХАУС
ДОСКА ПОЛА
ЕВРОВАГОНКА
ИМИТАЦИЯ БРУСА
в наличии
*Цена производителя*
8 (029) 666 40 37
8 (01562) 2 50 92
УЧПП "Орбита-Слоним", УНП 500041580

РАСПИЛЮ
круглый лес с выездом к заказчику
Наличие электричества не обязательно
Длина бревна до 6,5 м
Диаметр бревна до 63 см
Тел. 8-029-330-62-26,
8-029-514-17-92.
ИП Семеньков С.Н, УНП 591733876

ИП Астюкевич С.А. УНП 590325520
ВЫПОЛНЮ ОТДЕЛОЧНЫЕ РАБОТЫ
гипсокартон, плитка, штукатурка, шпатлёвка, обои, ламинат, откосы, арки любой сложности, фасады и др. работы
8-033-665-11-68
8-033-697-47-00

ТЕПЛИЦЫ И БЕСЕДКИ
ПОЛИКАРБОНАТ
АКЦИИ
ПОДАРКИ
www.agroinvest.by
ПЕНСИОНЕРАМ СКИДКИ
ООО "Светопрозрачная кровля" УНП 591001987
ДОСТАВКА • МОНТАЖ • РАССРОЧКА БЕЗ %
ТЕЛ. (8029)295 29 53 (8029)325 80 20

Ремонт и техобслуживание
компьютеров
и ноутбуков,
выезд к клиенту бесплатно
БЫСТРО КАЧЕСТВЕННО НЕДОРОГО
Тел. +375 33 303 94 09, +375 25 972 38 32
Макаревич А.Д. УНП НВ0910358

Магазин
«ТЕПЛОСЕРВИС»
котлы, колонки, радиаторы, теплый пол, смесители, ванны, санфаянс, *СОВРЕМЕННЫЕ СИСТЕМЫ* отопления и водоснабжения
УСЛУГИ ПО РАСЧЕТУ И МОНТАЖУ
РАССРОЧКА 0%
г. Слоним, ул. Советская, 19, бизнес-центр "Огинского", 1 этаж
8-029-185-33-54
8-033-655-33-54
8-01562-6-13-12
ИП Ковалев М.О. УНП 590879788

АНТЕННЫ
спутниковые
- установка
- настройка
- гарантия
Триколор, НТВ+ - ОБМЕН старых приемников на новые
РАССРОЧКА
(033) 900-24-28

РЕМОНТ
ТЕЛЕВИЗОРОВ
и др. техники
на дому у заказчика
8-033-689-95-77 МТС
8-029-347-49-44 Vel
ИП Шухно Н.В. УНН 590315266

ОКАЗЫВАЕМ УСЛУГИ ПО СТРОИТЕЛЬСТВУ
Фасад, кровля, штукатурка, кладка, сайдинг, гипсокартон, установка дверей.

Тел. 8-029-673-15-90
ИП Иванашко А.В. УНП 590942862

*УСТАНОВКА, ЗАМЕНА ЭЛЕКТРИЧЕСКИХ СЧЕТЧИКОВ, РОЗЕТОК, ВЫКЛЮЧАТЕЛЕЙ*
Монтаж электропроводки квартир, коттеджей, стройплощадок.
Velcom 154 32 45
ИП Алексейчик Н.Н., УНП 590827865

РЕМОНТ ХОЛОДИЛЬНИКОВ ИМПОРТНОГО И ОТЕЧЕСТВЕННОГО ПРОИЗВОДСТВА
Гарантия
Воскресенье – выходной
Тел.: 8-033-363-86-09, МТС
ИП Чеботаревич Г.В., УНП 590350708

Скидка 10 %
ПАМЯТНИКОВ
Изготовление и художественное оформление любых форм
доставка, установка
г. Слоним, ул. Советская, 73, тел.2-78-23
ЧУП Лагутик С.Р. УНП 590789281

ИП Ольховик С.А., УНП 591741066
УСТАНОВКА, ДЕМОНТАЖ
ВЫРАВНИВАНИЕ ПАМЯТНИКОВ
БЛАГОУСТРОЙСТВО
МЕСТ ЗАХОРОНЕНИЯ
8 033 359-90-10 (МТС), 8 -029 987 11 70 (Vel.)

МАСТЕРСКАЯ
ПО ИЗГОТОВЛЕНИЮ ПАМЯТНИКОВ
Натуральный гранит, мраморная крошка.
Любая конфигурация, любые размеры
ДОСТАВКА — УСТАНОВКА
НИЗКИЕ ЦЕНЫ
Ул. Минский тр-т, 31 ( территория ф-ки «Гостиничная мебель»)
Тел. 3-60-76, 8-029-909-90-05
ИП Матейчук Г.П., УНП 500273273

ПАМЯТНИКИ
из гранита и мраморной крошки
СОБСТВЕННОЕ ПРОИЗВОДСТВО!
Благоустройство мест захоронения, установка, демонтаж.
Ограды из нержавеющей стали и гранита.
РАССРОЧКА
Рынок центральный, торг. место №163
МТС 8-033-654-79-06
ИП Лишик В.Ф. УНП 590087543

ИП Лишик П.В., УНП 591743268
ПАМЯТНИКИ
из натурального гранита и гранитной крошки
г. Слоним, ул. Ершова, 50
Благоустройство мест захоронений, установка, демонтаж
Искусственные цветы, лампады, вазы (гранитные, полимерные, пластмассовые)
Декоративный щебень, искусственная трава
+ 375 33 654 79 06 +375 44 746 28 96

ПАМЯТНИКИ
Из натурального гранита любой сложности
Из мраморной крошки
Собственное производство
Низкие цены
Доставка Установка
Caggiati
г. Слоним, ул. Коммунистическая, 18
8-029-913-42-53
ИП Матейчук Г.П., УНП 500273273

ПАМЯТНИКИ И КОМПЛЕКСЫ ИЗ ГРАНИТА
ИП Куликовский А.М., УНП 591735123
МЕДАЛЬОНЫ И ТАБЛИЧКИ ИЗ НЕРЖАВЕЮЩЕЙ СТАЛИ
*ДОСТАВКА, УСТАНОВКА БЛАГОУСТРОЙСТВО ХОРОШЕЕ КАЧЕСТВО НИЗКИЕ ЦЕНЫ*
Мы переехали
рынок «Коссовский», павильон 104
МТС 8-029-787-84-71 ВЕЛ. 8-029-935-46-47

ИП Рында С.А., УНП 590077541
RIP
ОРГАНИЗАЦИЯ ПОХОРОН
и связанные с ними услуги
Ружанская 16
КАТАФАЛК
Благоустройство мест захоронений
Тел.:
+375 29 642 60 01
+375 33 362 60 01
+375 29 281 67 55

ЧПУП
«ГРАНВИ»
изготовление памятников любой формы из натурального гранита
СКИДКИ 7 %
ИНВАЛИДАМ И ПЕНСИОНЕРАМ
г. Слоним ул. Минский тракт 32а
Тел/факс:
8(1562) 6-26-65; 8(029) 664 62 10
УНП590717996 ЧПУП «Гранви»

Кравченко Д.Н.. УНП 591734170
ПАМЯТНИКИ
Изготовление и художественное оформление памятников.
Установка Благоустройство Демонтаж
8(044)7813674 8(029)5762418
ул. Янки Купалы 35
Вход с ул.Горького через проходную РАЙПО

ЖЫЦЦЁ ВАЧЫМА ЧЫТАЧА

# «УСЕ МАЕ ЗНАЁМЫЯ СКАРДЗЯЦЦА, ШТО ПЕНСІІ НЕ ХАПАЕ»



**«Якім для Вас быў мінулы тыдзень! Што Вас усхвалявала, абрадавала ці засмуціла за гэты час!» — спыталі мы ў нашых чытачоў.**

**Анатоль Альшэўскі з Дзятлава, пенсіянер, 62 гады:**

«ЗНОЎ НАВЕЗЛІ ГРАВІЮ І РАЗРАЎНЯЛІ ПА АСФАЛЬЦЕ...»

— Усе жывыя-здаровыя. У Беларусі ўсё спакойна — і гэта добра. А вось у нас у Дзятлаве ёсць вуліца Азёрная, на якой я жыву. Вуліца наша працягласцю будзе не большай за 250 метраў. Але рух машын на ёй даволі вялікі, бо яна вядзе да паліклінікі, сырзавода і на аўтатрасу Слонім — Ліда. Гадоў сем назад пры ямачным рамонце на нашу вуліцу прывезлі некалькі самазвалаў гравію, пусцілі грэйдар, разраўнялі — і ўвесь рамонт. Гравій гэты вельмі хутка высыхае, бо ляжыць на сухім асфальце. А калі высахне, то пры руху машын за кожнай машынай стаіць слуп пылу. Мы, жыхары вуліцы, задыхаемся тады ад пылу. Толькі калі пройдзе дождж, тады некалькі гадзін дыхаем чыстым паветрам, а потым — зноў пылішча. Пыл асядае на дрэвах, дамах, вокнах. Мы шмат разоў звярталіся ў райвыканкам, каб вырашылі гэтую праблему. Усяго і трэба пасля зімы, што заліць калдобіны асфальтам, зрабіць сапраўдны ямачны рамонт, калі ўжо няма асфальту, каб заасфальтаваць усю вуліцу. Да аднаго кіраўніка раёна хадзілі з гэтым пытаннем, да другога — усё заставалася, як ёсць. Цяпер у нас новы кіраўнік. Да гэтага яшчэ толькі збіраліся звяртацца. Пасля зімы гравію на асфальце заставалася мала, то спадзяваліся, што ямы на вуліцы залатаюць асфальтам. Але дарэмна. Учора (20.03.18. — **М.К.**) зноў навезлі гравію і разраўнялі па асфальце. Гравій высахне, і мы зноў будзем глытаць пыл на сваёй вуліцы. На гэтай жа вуліцы, толькі глыбей у двары, стаіць дзіцячы садок. То калі машыны хутка ездзяць, пыл і туды трапляе. Мы ўжо думаем, што лепш бы камунальнікі зусім ніякага рамонту тут не рабілі, чым такі. Былі б ямы на дарозе, то машыны ездзілі б паціху і не было б ніякага пылу, — выказаўся Анатоль Іванавіч.

**Наталля Яфімік са Слоніма, пенсіянерка КПФ, 57 гадоў:**

«НЕ МАГУ ЛІШНЮЮ ЦУКЕРКУ КУПІЦЬ САБЕ ЦІ ЎНУКАМ – ПЕНСІІ НЕ ХАПАЕ»

— Радуюць толькі дзеці і ўнукі. Засмучае, што ўсё ў крамах ёсць, а купіць, што трэба і што хочацца, не можаш, няма за што. Я не магу лішнюю цукерку купіць сабе ці ўнукам — пенсіі не хапае. Дык у мяне яшчэ лічыцца пенсія не малая. Я пайшла на пенсію з КПФ у 50 гадоў. Налічылі тады мне пенсіі 267 рублёў, пакрысе дадавалі, і цяпер атрымліваю 313 рублёў. А каляжанкі мае, хто пайшоў на пенсію пазней, цяпер атрымліваюць па 260-280 рублёў. Канечне, такіх грошай не хапае і многія працягваюць працаваць, хоць і здароўя ўжо няма. А яшчэ людзі працуюць, каб дзецям дапамагчы... Усе мае знаёмыя скардзяцца, што пенсіі не хапае, — прызналася Наталля Віктараўна.

Яшчэ адзін наш чытач са Слоніма, Яраслаў Халецкі, пенсіянер МУС, які днямі завітаў у рэдакцыю, на пытанне, што яго парадавала ці засмуціла апошнім часам, адказаў зусім лаканічна: «Нічога!»

**Мікола КАНАНОВІЧ**

Паважаная наша падпісчыца
**Марыя Міхайлаўна АНІСЬКА!**
Сардэчна віншуем Вас з днём нараджэння!

Жадаем шчасця і дабра!
Хай красавік Ваш новы
Прыносіць толькі на ўра
Свой кожны дзень вясновы.

*Рэдакцыя «Газеты Слонімскай»*

# ФК «СЛОНИМ-2017»

7 апреля стартует новый футбольный сезон в чемпионате Беларуси по футболу среди команд первой лиги. Среди них и футбольный клуб «Слоним-2017». Представляем игроков и тренерский штаб команды образца 2018 года.

**Никита ПАСТУХОВ**

## Тренерский штаб


КАДОВБИК АЛЕКСАНДР НИКОЛАЕВИЧ, СТАРШИЙ ТРЕНЕР, 25.09.1969


КОРОЛЬ ОЛЕГ ИВАНОВИЧ, ГЛАВНЫЙ ТРЕНЕР, 7.11.1969


КУХТА ВАДИМ ЯКОВЛЕВИЧ, ТРЕНЕР-МАССАЖИСТ, 03.05.1984


ШУБЕНОК АЛЕКСЕЙ ИВАНОВИЧ, ПОМОЩНИК ГЛАВНОГО ТРЕНЕРА, 15.09.1961


СОЛОВЕЙ АНДРЕЙ ВИКТОРОВИЧ, 13.12.1994


АРТЮХ МАРТИН ЕВГЕНЬЕВИЧ, 06.05.1996


МАТЮХЕВИЧ АЛЕКСАНДР ЮРЬЕВИЧ, 02.04.1990


КОСТЮЧИК АНТОН АНДРЕЕВИЧ, 07.04.1996


ГЛЕБОВ ЮРИЙ АЛЕКСАНДРОВИЧ, 03.05.1995


ХАРЛАНОВ ВЛАДИМИР ВЛАДИМИРОВИЧ, 05.02.1992


СПАСЮК ВАДИМ ВАДИМОВИЧ, 31.12.1991


ПАЦЕВИЧ ИЛЬЯ ГЕННАДЬЕВИЧ, 15.01.1989


ДЕГТЕРЁВ АЛЕКСАНДР ЮРЬЕВИЧ, 20.03.1986

# ОБРАЗЦА 2018 ГОДА


СКАЧКОВ АЛЕКСЕЙ ВЛАДИМИРОВИЧ, 25.01.1999


ПУЗАЧ АЛЕКСАНДР АЛЕКСАНДРОВИЧ, 29.09.1995


ЧЕШУН АНДРЕЙ ОЛЕГОВИЧ, 15.04.1997


АЗЕРСКИЙ ЕВГЕНИЙ ЛЕОНИДОВИЧ, 11.07.1995


МАКАРОВ АНАТОЛИЙ ВАСИЛЬЕВИЧ, 10.04.1996


ЖИЛИНСКИЙ АЛЕКСАНДР ГЕННАДЬЕВИЧ, 19.10.1995


МАКАРОВ СТЕПАН ВАСИЛЬЕВИЧ, 10.04.1996


МАЧАЛОВ МАКСИМ АЛЕКСАНДРОВИЧ, 04.02.1998


БУБНОВ ВЛАДИСЛАВ ВАСИЛЬЕВИЧ, 27.11.2000


БАЛЬ ЕВГЕНИЙ АЛЕКСЕЕВИЧ, 21.07.1998


МИХАЛЬЦОВ ПАВЕЛ ВЛАДИМИРОВИЧ, 26.03.1991


МАТВЕЕВ ЕГОР ОЛЕГОВИЧ, 25.03.1993


ПОЛЯКОВ ФИЛИПП ЮРЬЕВИЧ, 13.04.1995


КРАСИЙ АЛЕКСАНДР АЛЕКСЕЕВИЧ, 17.03.1990


ДЕРНЕЙКО ВАДИМ ЮРЬЕВИЧ, 26.01.1999

# Новый автосервис гарантирует качество услуг

**С 1 апреля в Слониме начал работу автосервисный комплекс, который предлагает клиентам широкий спектр услуг:**
- ремонт подвески и рулевых реек
- замену масла в двигателе и КПП
- ремонт двигателей
- шиномонтаж
- замену и ремонт турбин
- замену сцепления
- продажу турбин, запчастей и др.


Ремонт автомобиля

В автосервисе «Свой гараж» считают, что проблему лучше предупредить, чем потом исправлять. Поэтому сервис предлагает услуги автодиагностики.

Рабочее пространство оборудовано современной техникой и инструментами, а работают здесь опытные профессионалы, которые способны справиться с любой проблемой.

В автосервисе «Свой гараж» исправят проблему в любой части автомобиля: двигателе, тормозной и топливной системе, ходовой части, рулевом механизме, трансмиссии и выхлопной системе. Если возник сбой в электрике, теперь не нужно искать дорогой сервисный центр — починить все можно в Слониме.

Хотите переобуть машину к весне? Только у нас снять/поставить одно колесо можно всего за 1 рубль. А замена колес, переборtировка и балансировка 4 колес от 13 рублей.

— Мы хотим оказывать качественные услуги по ремонту и обслуживанию легковых автомобилей и фургонов, чего так не хватает в Слониме. Для нас качество стоит на первом месте, — отмечает в разговоре Дмитрий.

По турбинам они работают с гродненской компанией KRYMAR, у которой можно заказать новые или починить старые турбины по самым низким ценам в Беларуси.

В автосервисе работают два специалиста, которые имеют огромный опыт работы в этой области.

В автосервисе низкие цены на шиномонтаж. Предоставляется гарантия на ремонт. Здесь можно приобрести необходимые автозапчасти.

Услуги оказываются за наличный и безналичный расчет.

**Анна ВОЛОДАЩУК**


Шиномонтаж


Подъемник для ремонта внедорожников и пикапов

**Вас рады видеть по адресу:**
**г. Слоним, ул. Красноармейская, 157 (заезд со стороны пер. Приречного).**

**ВРЕМЯ РАБОТЫ:**
**понедельник-пятница с 9.00 до 19.00,**
**суббота-воскресенье с 10.00 до 16.00.**

**Тел.: + 375 25 753 70 70, 8 029 888 58 48**

ИП ЯРМОЛЮК Д.С., УНП 591744754



# ВОЙДИ В ИСТОРИЮ СВОЕГО ГОРОДА

В жизни каждого человека случаются как радостные, так и горестные события. Ведь именно из них и складывается хроника нашей жизни, которая может быть интересна не только нам, но и нашим потомкам. Поэтому давайте вместе создавать историю нашего Слонима.

Если вы хотите, чтобы издание «Отдушина» написало о вашей свадьбе, рождении ребенка, известило о смерти ближнего и напечатало некролог под рубрикой "Войди в историю своего города", пишите нам -по адресу:
г. Слоним, ул. Красноармейская, 41, Тел.: 612-26-43, 2-90-00 (Тел/факс) .

# «Если бы я получил ПМЖ в Америке, то улетел бы туда на крыльях»

Вы хоть тут живете, как говорится, битые со всех сторон, а я увидел действительно жизнь, пожил там, а приехал и провалился в бездну. Вот как мне быть? Как можно это все терпеть? Цены каждый день растут, а зарплаты и пенсии находятся на одном месте. Это не Родина, а каторга.

НАЧАЛО НА СТР. 4 «ГС»

**— Если вдруг человек заболеет, как быть, ведь там медицина дорогая?**

— Там есть бесплатные больницы для бедных и нищих людей. Но если серьезно заболеешь — например, случится перелом или необходимо делать операцию на сердце, то придется платить деньги. В каждом госпитале есть адвокат, которому можно объяснить ситуацию, например, что ты находишься без работы и не можешь по состоянию здоровья работать. Тогда человеку предоставляют помощь в размере 120 долларов в месяц на продукты и еще дают чек на 100 долларов. Поэтому можно жить. Более того, в Америке очень много компаний, которые бесплатно раздают продукты нищим и бедным людям в назначенных местах и в определенные дни. Продукты выдают бесплатно четыре раза в месяц — хлеб, мясные продукты, овощи, фрукты, кондитерские изделия, консервы из лосося и еще много чего. Можно набрать четыре коляски хороших продуктов, которых хватит на месяц. А какие там продукты! Здесь сок я не могу пить, мне кажется, что это разведенная вода.

**— Иной раз слышишь, что американские продукты напичканы химикатами.**

— Пусть люди поедут и посмотрят. Как говорится, лучше один раз увидеть, чем сто раз услышать.

**— Владимир Наумович, Вы 15 лет жили в Америке, неужели Вас не тянуло на родину, в родные края?**

— Куда и чего потянет в эту бедность?!

**— За эти 15 лет что-то изменилось в Беларуси, ведь когда уезжали, она была другая?**

— Все изменилось, все стало хуже: беспорядки, разболтанность, безработица, а если работы нет, что это за жизнь? Вот народ и спивается.

Спекулянты открыли торговлю. Когда я приехал в Слоним, город мне очень понравился: чистый, благоустроенный, дома выкрашены. Но на базаре все очень дорого.

В Америке вся одежда дешевая, есть торговые точки, которые оказывают гуманитарную помощь. Заходишь, выбираешь одежду, обувь — выдают пачками, грузи и увози, и ни одного гроша не заплатишь.

Если бы ты поехала, пожила там три месяца, то сказала бы: я не хочу родины, хочу ее забыть навсегда. Здесь страшно жить, вернувшись оттуда. Дело в том, что мне тяжело: я уже в возрасте, поэтому хочу найти напарника. Если бы я был моложе, уехал бы, нашел работу. Мне там государство давало квартиру, которая стоила 600 долларов в месяц, а я за нее платил бы всего 55 долларов. Но мне надо было уехать домой, так как у меня заканчивалась виза.

**— Какой размер пособия по безработице в США?**

— 460 долларов составляет пособие по безработице. На эти деньги можно спокойно прожить. И продукты, и одежду можно спокойно бесплатно получить. Там безработный лучше живет, чем здесь работающий.

**— Как Вы думаете, жизнь белорусов изменится?**

— Не было здесь жизни и не будет. Кто нами руководит? Здесь начальники делают все, что им хочется. 41 год я отработал на коммунистов, заработал пенсию, получал ее. На то время моя пенсия составляла 200 долларов, а сейчас — 190 долларов. И вот когда я приехал сюда, я оказался в страшном ужасе. Там я 15 лет прожил без проблем. Когда уезжал в Америку, пенсию свою оформил на пять лет на дочь. Дочери то выдавали пенсию, то нет, но за четыре с половиной года ей все же удалось с трудом добиться ее выплаты. А за десять лет ей отказали в получении пенсии. Сказали, что не положено, когда отец приедет, сам получит. А когда приехал, я ничего не получил. В Слонимском райисполкоме мне сказали, что я не был дома 10 лет, поэтому пенсию мне не отдадут. Я обратился к гродненским чиновникам, написал письмо на имя Лукашенко, но мне прислали ответ, что пенсия не положена, так как долгое время я здесь не жил.

Как так, ведь я 41 год проработал, законно получил пенсию. И как можно здесь после всего этого жить? За это время, я посчитал, потерял 25 тысяч долларов. Я мог бы за эти деньги квартиру купить и жить спокойно. Теперь я сам себя корю, что приехал сюда, надо было оставаться в Штатах. Если бы я мог, то на крыльях улетел и остался в Америке на постоянное место жительство. Вот прямо сегодня же ночью уехал бы. Чего тут сидеть и мучиться.

**— За время Вашего пребывания в США сменилось несколько президентов. При каком из них было лучше жить?**

— Буш и Обама ничего плохого в отношении людей не делали. А Трамп поставил дело ребром: всех нелегалов выселить. Одних мексиканцев планируют выселить пять миллионов. Поэтому вся Америка поднялась против него, люди выходят с протестами на улицы.

**— Если нелегалов-иностранцев выселят, кто будет работать?**

— Американцы на грязную работу работать не пойдут. Поэтому они и высказывают недовольство.

**— Когда люди выходят на улицы, их забирают в каталажки, бросают в тюрьмы?**

— Нет, нет, вы что! Если кто сильно выступает, устраивает дебоши или кому было запрещено устраивать акции, того могут забрать. В Америке по закону можно выступать, выдвигать свои требования, но требования могут выдвигать только граждане Америки. Все происходит по заявительному принципу. Там, если людям не нравится закон, они выходят на улицу и требуют отмены указа или закона. Там такого беззакония нет. Обратишься ты в органы власти — тебе в любое время объяснят, помогут, а если ты чего-то на английском не понимаешь, тебе подключат переводчика, все объяснят. Там все сделано для людей. Там так людей уважают, что вы себе даже представить не можете. Например, однажды я по объявлению в газете нашел работу. Надо было одной женщине отремонтировать и покрасить дом. Я еще плохо знал город, записал адрес, дорога была далекая, так как она жила на окраине Чикаго. Вижу: сзади за мной едет полицейский, наверное, он обратил внимание, что я неуверенно виляю по дороге, смотрю на бумажку, на которой записан адрес. Полицейский меня остановил, спросил, какие проблемы. Я с трудом ему смог пояснить, куда мне надо проехать, показал адрес. Он позвонил кому-то, затем достал карту, адрес переписал и сказал, чтобы я ехал за ним. И он меня сопровождал до дома, где мне надо было работать. Правда, попросил, чтобы я открыл багажник в машине, чтобы убедиться, что я действительно приехал работать. В багажнике были строительные материалы.

**— У Вас трое детей, никто из них не живет в Америке?**

— Одна дочь с семьей живет в США. Они с мужем там работают. И мне сказала: «Папа, я больше никогда не приеду на родину, только бы Бог послал здоровье. Мне тут хорошо». Здесь они построили дом и отказались от всего.

**— Владимир Наумович, белорусы — народ трудолюбивый, неужели мы заслужили такую жизнь? Ведь большинство белорусов сейчас еле-еле сводят концы с концами.**

— Вы хоть тут живете, как говорится, битые со всех сторон, а я увидел действительно жизнь, пожил там, а приехал и провалился в бездну. Вот как мне быть? Как можно это все терпеть? Цены каждый день растут, а зарплаты и пенсии находятся на одном месте. Это не Родина, а каторга.

**— Что пожелаете нашим белорусам?**

— Тут желай, не желай, говори, не говори — все без толку. Если высокопоставленный человек, выступая по телевизору, говорит: «У нас не народ, а скот» — то что может измениться? Еще хуже будет, а не лучше.

Эх, страна-сторонка...

**Анна ВОЛОДАЩУК**



Чикаго. Иллюстрационное фото



# Пазнай сябе на фота

**Паважаныя чытачы! Пазнавайце на старых фотаздымках сябе, сваіх знаёмых і блізкіх і тэлефануйце нам: 8 (01562) 29-000, 8 (029) 133-04-21 у працоўныя дні з 9:30 да 17:30.**



Слонімцы адпачываюць, гарадскі парк, 1999 год



2 жніўня 1998 года, слонімскія вернікі на беразе Шчары

На фотаздымак слонімскіх вернікаў на беразе Шчары 2 жніўня 1998 года, надрукаваны ў №13 «Аддушыны» ад 28 сакавіка, адгукнулася наша сталая чытачка Раіса Папова.

— Справа на здымку жанчына трымае раскрытую кнігу — гэта Валянціна Уладзіміраўна Казук. Яна працавала настаўніцай у Жыровіцкай сярэдняй школе, — расказала Раіса Іванаўна.

**Мікола КАНАНОВІЧ**
ФОТА З АРХІВА «ГС»

# Сінічка за акном

Ужо над зямлёй кружылі белыя сняжынкі, ужо з поўначы павяваў ледзяны вецер, калі Таню Зубовіч паслалі працаваць у аграгарадок Вусцішны. Так ёй не хацелася зрывацца з месца, пакідаць утульную кватэру ў райцэнтры, але загадчык сельгасупраўлення Віктар Акунін вельмі прасіў:

— Таццяна Генрыхаўна, у вас жа ні сям`і, ні дзяцей, то выручце, калі ласка. Як тамашні бухгалтар Дзіна Дабрыян выйдзе з дэкрэтнага водпуску, то вернецеся назад. Да гэтага часу пасада галоўнага бухгалтара ў нас стане вакантнай, то вы яе і зоймеце. Згаджайцеся...

Яна згадзілася, бо і сапраўды была вольная як вецер. Да трыццаці шасці гадоў не выйшла замуж, не нарадзіла дзяцей... А ў сваё жыллё можна і кватарантаў пусціць, усё ж нейкая капейка будзе. Ды і пасаду галоўнага бухгалтара абяцалі...

Аграгарадок Вусцішны знаходзіўся на самым ускрайку раёна, можна сказаць, у глыбінцы. Пры лесе прытуліліся некалькі вуліц, нібыта за дрэвамі схаваліся ад халодных вятроў. Пераважна дамы былі драўляныя, але на адной вуліцы ў роўны радок выстраіліся сучасныя катэджы з усімі зручнасцямі.

Калі выйшла з аўтобуса са сваімі небагатымі пажыткамі, што змясціліся ў адзін чамадан, да яе падскочыў жвавы малады хлопец і хуценька перахапіў той чамадан, панёс да ўазіка, які стаяў непадалёку.

— Старшыня Максім Сяргеевіч загадаў даставіць вас на кватэру, ён там чакае, — сакатаў хлопец з чорнымі кучаравымі валасамі, у якіх заблыталіся сняжынкі. — А я ў яго вадзіцелем працую, можна сказаць, правая рука. Завуць Іван Кузьмянок.

Таня назвала сваё імя, залезла ў машыну і, калі тая пакацілася па ўмерзлай дарозе, міжволі падумала, што яе чакае ў гэтым богам забытым Вусцішным. Сама меней — тры гады ссылкі. Можа, не трэба было згаджацца? Але ж і тут людзі жывуць. Вось Іван Кузьмянок — малады, прыгожы, спецыяльнасць мае, а не ўцёк у горад, бо не ўсім шчасце ў тым горадзе...

Пад`язджаючы да невялікай хаты, памаляванай у жоўты колер, як і большасць хат у Вусцішным, Таня заўважыла старшыню.

— Вось тут і спынімся, — сказаў Іван. — Будзеце жыць у бабкі Зосі, з якой Максім Сяргеевіч дамовіўся аб кватэры для вас. Казаў: «Прывозь, няхай адпачне з дарогі, а заўтра ўжо прыйдзе у кантору».

Старшыня стаяў ля варот і, калі яны пад`ехалі, пайшоў насустрач. Быў ён высокі, таўставаты, але рухавы, з прыгожай белазубай усмешкай. Гадоў меў пяцьдзясят, не болей. Яны ўжо сустракаліся, калі той прыязджаў па справах у райсельгасупраўленне.


МАЛЮНАК ЯЎГЕНА ІВАНОВА

— У бабкі Зосі не харомы, канешне, але жыць можна, — сказаў, павітаўшыся. — Мы б вам і кватэру асобную не пашкадавалі, ды цяпер не маем. Можа, прыжывяцеся ў нас назаўсёды, то з часам катэдж выдзелім.

— Думаю, што я тут ненадоўга, — мовіла Таня, бо перспектыва жыць у Вусцішным яе не радавала.

Бабка Зося тупала па хаце, збіраючы на стол пачастункі. Высокая, худая, у цёплым квяцістым халаце і белай хусцінцы. Сустрэла кватарантку з прыязнай усмешкай.

— Праходзь, дачушка, для цябе падрыхтаваны асобны пакой. Я хоць і старая, восемдзесят восем гадоў маю, але парадак люблю.

Старшыня з Іванам паехалі, а бабка, уключыўшы святло, бо за акном ужо пасыпаўся шэры прыцемак, запрасіла Таню за стол.

— Хораша ў вас, — пахваліла дзяўчына, бо неяк адразу адчула сябе па-дамашняму ўтульна. Убачыўшы на сцяне партрэт ужо немаладога прыгожага вайскоўца ў званні палкоўніка, спытала:

— Гэта ваш сваяк?

— Але, самы блізкі, — усміхнулася бабка. — Гэта мой сын Міша. Ён жыве на Далёкім Усходзе. Быў жанаты, але развёўся, бо жонка хацела дзетак, а яны ўсё ніяк не нараджаліся. То кінула майго Мішу і пайшла да другога. Але казаў, што і там маленькіх няма. Не суджана, значыць, ёй стаць мамай. Нічога не зробіш, такое бывае...

Зося расказала, што муж яе памёр даўно і Мішу гадавала адна, а Таня пажалілася, што таксама шчасця не мае. Бацька кінуў сям`ю, калі ёй быў годзік, а маці спілася і памерла, так што расла яна ў дзіцячым доме.

— Бедненькая, я табе вельмі спагадаю, — мовіла бабулька Зося і пагладзіла сваёй маршчыністай рукой Таніну руку. — Будзеш мне за дачушку, бо я таксама адзінокая. Дзе той Далёкі Усход, дзе той сын...

На другі дзень, прыйшоўшы з работы, Таня застала дома чужую жанчыну, якая мыла падлогу.

— Гэта сацыяльная работніца, — патлумачыла бабка. — Прыходзіць два разы ў тыдзень, каб справіцца з хатнімі клопатамі.

— А я тут навошта? Напішыце заяву, што адмаўляецеся ад яе паслуг. Я сама буду ўсё рабіць. Калі не згодзіцеся, то пакрыўджуся.

Зося згадзілася. Жылі яны дружна, не ўсякая мама з дачкой так жывуць.

А ў пачатку вясны здарылася бяда: бабка занемагла. Слабасць скавала ўсё цела, і яна не ўставала з пасцелі.

— Дачушка, не трэба маркоціцца, — супакойвала Таню, убачыўшы у яе прыгожых сініх вачах слёзы. — Ад старасці лекаў няма... Прыходзіла фельчарка, дала тут нейкіх таблетак, але толку? Я зранку папрасіла суседку, каб пазваніла сыну. Няхай прыедзе, мо яшчэ жывую застане...

Невысокая спрытная Таня стала ля ложка на калені і прыціснулася шчакой да бабчынай рукі:

— Усё будзе добра, вось пабачыце! Гляньце, на куст язміну за акном села такая прыгожая сінічка... Гэта яна прынесла нам радасную вестку...

— Добра, калі так...

З гэтымі словамі ў бабкі Зосі аднялася мова, а праз суткі яе не стала.

Паслязаўтра, калі старэнькую неслі на могілкі, насустрач пахавальнай працэсіі ішоў бравы вайсковец. Людзі пазналі ў ім Міхаіла.

— Нешта ж Таня не выбіраецца з Зосінай хаты? — сказала аднойчы ў магазіне Люба Забаўчык. — Колькі часу прайшло, а яна ўсё там. І Міхаіл не едзе на службу...

— Дык ён жа вярнуўся назаўсёды. Яны з Таняй заяву ў сельсавет падалі, распісвацца будуць, — паведаміла прадаўшчыца Зіна Купка. — Адсталі вы ад жыцця, бабанькі...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## АФИША

### Театр

__7 АПРЕЛЯ, СУББОТА__

Для детей: «Малыш и Карлсон», начало в 12.00

### Центр культуры и отдыха

**Кинозал**

__4 АПРЕЛЯ, СРЕДА__

«Кролик Питер» 2D (Великобритания, 2018, 6+, мультфильм, 1.40), начало в 12.00

«Первому игроку приготовиться» 3D (США, 2018, 12+, фантастика, 2.26), начало в 18.00, 20.30

__5 АПРЕЛЯ, ЧЕТВЕРГ__

«Кролик Питер» 2D, начало в 12.00, 14.00

«Первому игроку приготовиться» 3D, начало в 16.00

«Гоголь. Вий» 2D (Россия, 2018, 16+, детектив, приключения, 1.45), начало в 18.30, 20.30

__6 АПРЕЛЯ, ПЯТНИЦА__

«Кролик Питер» 2D, начало в 12.00, 14.00

«Гоголь. Вий» 2D, начало в 16.00, 18.00

«Первому игроку приготовиться» 3D, начало в 20.00

__7 АПРЕЛЯ, СУББОТА__

«Кролик Питер» 2D, начало в 12.00, 14.00

«Первому игроку приготовиться» 3D, начало в 16.00

«Гоголь. Вий» 2D, начало в 18.30, 20.30

__8 АПРЕЛЯ, ВОСКРЕСЕНЬЕ__

«Гоголь. Вий» 2D, начало в 18.00

«Первому игроку приготовиться», начало в 20.00

### Отдел культуры и ремёсел (ул. Красноармейская, 23)

__4 АПРЕЛЯ, СРЕДА__

Познавательная программа для подростков «Путь к доброму здоровью», начало в 10.00

Открытый урок по декоративной росписи «Пасхальное яйцо», начало в 15.00

__6 АПРЕЛЯ, ПЯТНИЦА__

Выставка ДПИ детского творчества «Пасхальный сувенир», начало в 9.00

Главный редактор Виктор Владимирович Володащук

Учредитель
Виктор Владимирович ВОЛОДАЩУК

ГАЗЕТА ВЫХОДИТ
НА РУССКОМ И БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКАХ

Телефоны редакции:
Velcom: 8-029-133-04-21
факс: 8 (01562) 2-90-00
звонить с 9.00 до 18.00
Skype — gazslon

Для корреспонденции:
231799, г. Слоним,
ул. Красноармейская, д.41
Юридический адрес:
г. Слоним, ул. Красноармейская, 41

Регистрационное удостоверение №65 от 05.03.2009 года выдано Министерством информации Республики Беларусь. Свидетельство о госрегистрации УП "Газета Слонимская" ЮКЛ № 001845, выданное Гродненским областным исполнительным комитетом от 03.04.2003 г.

Авторы опубликованных материалов отвечают лично за подбор и достоверность фактов, их точка зрения может не совпадать с мнением редакции. Редакция не ведет переписки с читателями и оставляет за собой право не рецензировать и не возвращать рукописи. Редакция не несёт ответственности за содержание рекламы.

Свободная цена

Тираж номера 3026 экз.

Время подписания
к печати по графику
3 апреля 2018 года 15:00

РЕКЛАМНАЯ СЛУЖБА
8-(044) 715-90-03
8-(044) 762-48-39
ул. Красноармейская, 73Б (здание АРЗ)
e-mail: gs@gs.by, gazslon@gmail.com

Объем – два условных печатных листа.
Газета отпечатана в ГОУПП "Гродненская типография", Гродно, ул. Полиграфистов, 4.
индекс 230025
ЛП №02330/39 от 27.03.2014
Заказ № 1930

Распространяется с газетой "Газета Слонимская" по подписке и в розницу по Республике Беларусь

ISSN 1991-3362



